# У ДУШАХ НАШЫХ — ПЕРАМОГІ ДЗЕНЬ СВЯТЫ

# ЗВЯЗДА

8 мая 1996 г. серада, № 114 (22917)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў




## СА СВЯТАМ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ!

ГЛЫБОКАШАНОЎНЫЯ ВЕТЭРАНЫ САВЕЦКІХ УЗБРОЕНЫХ СІЛ, ПАРТЫЗАНЫ І ПАДПОЛЬШЧЫКІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, ПРАЦАЎНІКІ ТЫЛУ!

ПАВАЖАНЫЯ СУГРАМАДЗЯНЕ!

Сардэчна віншую вас з нашым святым святам — Днём Перамогі.

Шлях савецкага народа да нашай Вялікай Перамогі пачынаўся на беларускай зямлі 22 чэрвеня 1941 года.

З першых дзён Вялікай Айчыннай, стрымліваючы фашысцкія полчышчы, насмерць стаяла Брэсцкая крэпасць. Месячную асаду вытрымаў непахісны Магілёў. Абедзве гэтыя цвярдыні пратрымаліся даўжэй, чым амаль усе краіны Заходняй Еўропы разам узятыя. Свет быў уражаны сілай духу, мужнасцю і гераізмам савецкага народа, яго Арміі і Флоту.

Абараняючы сваю радзіму ад ворага, які імкнуўся раз'яднаць, заняволіць, а затым па адным знішчыць народы Савецкага Саюза, плячо ў плячо за сваю зямлю і свабоду на беларускіх прасторах змагаліся беларусы і рускія, украінцы і ўзбекі, армяне і грузіны, татары і башкіры, калмыкі і якуты.

Да высадкі саюзнікаў у Нармандыі партызанскі рух па заслугах лічылі другім фронтам. Мы ганарымся, што ўвесь савецкі народ з любоўю называў Беларусь партызанскай рэспублікай. І нікому не дазволім запляміць партызанскую славу. Нікчэмныя тыя, хто напярэдадні вялікага свята спрабуе ачарніць народнае пакутніцтва і гераізм.

Савецкая Армія, партызанскія брыгады, падпольныя арганізацыі, працаўнікі тылу — увесь савецкі народ набліжаў нашу Вялікую Перамогу.

З намі ішлі да перамогі нашы браты і саюзнікі з Югаславіі, Польшчы і Балгарыі, Чэхаславакіі і Венгрыі, нямецкія і аўстрыйскія антыфашысты.

Мы аддаём належнае вялікаму ўкладу ў перамогу саюзнікам па антыгітлераўскай кааліцыі: народам і Узброеным Сілам Злучаных Штатаў Амерыкі, Вялікабрытаніі, Францыі, перамаганоснай арміі Кітая, якая змагалася супраць японскага мілітарызму.

Дарагія ветэраны Савецкіх Узброеных Сіл, партызаны і падпольшчыкі!

Бязмерная наша любоў, павага і абавязак перад Вамі. Нізкі паклон Вам, маці і сёстры воінаў арміі і флоту, слаўных партызан за Вашу працу, стойкасць, мужнасць і цярпенне.

Мы схіляемся перад цяжкімі выпрабаваннямі дзяцей ваеннай пары, якія перанеслі голад, холад, жахі смерці ў час нямецка-фашысцкай акупацыі. Менавіта гэтаму пакаленню прыйшлося паднімаць з руін гарады і вёскі Беларусі.

Сёння мы святкуем Дзень Перамогі ў няпросты час.

Няма больш дзяржавы — Савецкі Саюз. Але ёсць імкненні нашых народаў жыць разам, ёсць запавет герояў Вялікай Перамогі берагчы мір і згоду ў нашым доме. Мы ні на крок не адступім ад іх запаветаў.

У гэтыя майскія дні Перамога сорак пятага года пацвярджае, што выстаяць у нялёгкі час можна толькі разам. І перш за ўсё з Расіяй, брацкія адносіны з якой мы змацавалі Дагаворам аб стварэнні Супольніцтва дзвюх дзяржаў.

Мы верым у светлы дзень нашай краіны і народа. Таму што ў нашых сэрцах жыве вялікая энергія пераможцаў сорак пятага года, іх воля і мужнасць. Таму што з намі Сцяг Перамогі.

Са святам Вялікай Перамогі, дарагія суграмадзяне!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

---

ШАНОЎНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

ДАРАГІЯ ВЕТЭРАНЫ!

Пяцьдзесят адзін год мінуў з таго светлага вясновага дня — 9 Мая 1945 года, калі свет упершыню адзначыў Дзень Перамогі.

Завяршылася другая сусветная вайна, у якую былі ўцягнуты 72 дзяржавы і ў якой ваявала звыш 110 мільёнаў чалавек. Разам з беларусамі і рускімі, украінцамі і ўзбекамі, грузінамі і казахамі, прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей, якія ваявалі ў саставе Савецкай Арміі, з агульным ворагам змагаліся і іншыя народы свету.

Літаральна па кавалачку адваёўвалася нашымі абаронцамі ў бязлітаснай схватцы з захопнікамі родная зямля. Летам 1944 года пасля трохгадовай фашысцкай акупацыі была нарэшце вызвалена Беларусь, якая перанесла боль вялікіх страт і разбурэнняў.

Перамога дасталася нялёгкай цаной. Другая сусветная вайна знішчыла больш за пяцьдзесят мільёнаў чалавек, адабрала жыцці кожнага чацвёртага беларуса. І мы не маем права забываць пра гэта.

Вечная памяць загінуўшым франтавікам, партызанам, падпольшчыкам, мірным жыхарам, якія цаною сваіх жыццяў адстаялі мір!

Бязмерная падзяка ветэранам Вялікай Айчыннай вайны за іх бяспрыкладны подзвіг, за Перамогу, за самаадданую пасляваенную працу, дзякуючы якой з попелу паўстала Беларусь. Ваеннае пакаленне, якое вынесла столькі пакут і такі цяжар, што вярнула нам мір і свабоду, дастойнае самых высокіх слоў і пачуццяў.

Шаноўныя ветэраны! Суровыя выпрабаванні, якія выпалі на вашу долю, загартавалі ваш дух. Многія з вас, і гэта радуе, актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці, перадаюць свае веды, багаты вопыт новым пакаленням.

Вашы сыны і дочкі, унукі і праўнукі — дастойныя прадаўжальнікі вашых слаўных спраў. Нашаму народу трэба будзе вырашыць няпростую задачу — вывесці Беларусь з эканамічнага крызісу, ператварыць яе ў развітую, высокакультурную і квітнеючую краіну. Ваш прыклад дапаможа ўсім нам справіцца з цяперашнімі цяжкасцямі.

Дарагія нашы ветэраны! Ад усёй душы віншую вас з Днём Перамогі!

Здароўя, шчасця, бадзёрасці, аптымізму, добрага настрою, доўгіх гадоў жыцця вам, вашым родным і блізкім!

Няхай неба над Беларуссю ніколі не азмрочваюць чорныя хмары вайны! Няхай яно будзе заўсёды мірным, светлым і чыстым, як у гэтыя цудоўныя майскія дні!

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён ШАРЭЦКІ.**

---

ДАРАГІЯ ВЕТЭРАНЫ, ФРАНТАВІКІ, ПАРТЫЗАНЫ І ПАДПОЛЬШЧЫКІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ, ПРАЦАЎНІКІ ТЫЛУ!

ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

Ад усёй душы віншую Вас з вялікім і светлым святам — Днём Перамогі!

Пяцьдзесят адзін год таму змоўклі апошнія залпы самай крывавай у гісторыі чалавецтва вайны. Аднак чым далей у глыб гісторыі адыходзяць цяжкія і гераічныя гады Вялікай Айчыннай вайны, тым больш маштабна і ярка паўстае перад чалавецтвам веліч подзвігу народа-пераможцы.

На долю нашай рэспублікі выпала трагічная і гераічная місія — прыняць першы, страшнай разбуральнай сілы, удар на сябе.

Наш народ з гонарам вынес гэта цяжкае выпрабаванне. Ужо першыя прыгранічныя баі, самаадданая абарона Брэсцкай крэпасці парушылі фашысцкую дактрыну «маланкавай вайны».

Гераічныя і смелыя дзеянні нашых партызан і падпольшчыкаў паказалі агрэсару, што перамагчы такі народ немагчыма.

На абелісках і помніках Беларусі выбіты імёны воінаў самых розных нацыянальнасцей, якія загінулі за вызваленне нашай роднай зямлі. Менавіта таму гэту вайну называюць Вялікай Айчыннай усе брацкія народы. Дружба і брацкая дапамога аб'ядноўвала нас у часіну выпрабаванняў. Дружба і цеснае супрацоўніцтва павінны быць нам апорай і сёння.

Перамога ў Вялікай Айчыннай вайне заўсёды будзе для нас сімвалам мужнасці, патрыятызму, самаадданасці салдата і генерала, партызана і падпольшчыка, медсястры франтавога шпіталя. Зброю Перамогі кавалі ў тыле мужчыны і жанчыны, падлеткі і старыя. За Уралам працавалі на Перамогу заводы, эвакуіраваныя з Беларусі.

Неацэнны вопыт яднання перад тварам смяротнай пагрозы — адзін з галоўных урокаў мінулай вайны.

У той суровы час мужнасць і мудрасць праявілі кіраўнікі краін, якія аб'ядналіся ў антыгітлераўскую кааліцыю. Хто ведае, колькі жыццяў выратаваў гэты крок.

Гонар і вечная слава ўсім, хто прынёс тады народам мір і надзею, вярнуў радасць жыцця і свабоды.

Нізкі паклон удовам вайны. Яны пранеслі праз доўгія гады свой цяжкі крыж, выхавалі для Айчыны сыноў і дачок, дастойных сваіх паўшых бацькоў.

Вялікі дзякуй людзям, якія змянілі франтавую гімнасцёрку на рабочую спяцоўку і паднялі з руін нашу Айчыну. Нам і сёння патрэбны ваш вопыт і жыццёвая мудрасць.

Час няўмольны. Многіх і многіх з ваеннага пакалення ўжо няма з намі.

Але жывуць і будуць жыць дзеці, унукі і праўнукі. А значыць — не астынуць сэрцы, не прытупіцца памяць, і ратны і працоўны гераізм ветэранаў будзе натхняць не адно пакаленне нашых людзей!

Дарагія ветэраны! Жадаю вам і вашым блізкім шчасця, здароўя, бадзёрасці і доўгіх гадоў жыцця!

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.**

---

## ЗАГАД
### Міністра абароны Рэспублікі Беларусь

**7 мая 1996 г.** *№ 250* **г. Мінск**

Дарагія ветэраны Вялікай Айчыннай вайны!

Таварышы генералы і афіцэры, прапаршчыкі і старшыны, сяржанты і салдаты, рабочыя і служачыя Узброеных Сіл!

Паважаныя суайчыннікі!

9 мая народ Беларусі, сусветная грамадскасць адзначаюць 51-ю гадавіну Перамогі над фашысцкай Германіяй. Гэты дзень увайшоў у гісторыю чалавецтва як сімвал свабоды, мужнасці і брацтва многіх народаў. Перамога стала найярчэйшым праяўленнем стойкасці і гераізму франтавікоў, партызан і падпольшчыкаў, самаадданасці працаўнікоў тылу.

Мы нізка схіляем галовы перад памяццю загінуўшых герояў Вялікай Айчыннай вайны. Іх баявыя здзяйсненні і смелыя ўчынкі навечна застануцца ва ўдзячнай памяці нашчадкаў.

Мы ганарымся нашымі ветэранамі, якія на перадавой, у падполлі, у партызанскіх атрадах, у глыбокім тыле кавалі Вялікую Перамогу. Для цяперашніх воінаў, моладзі подзвіг старэйшага пакалення заўсёды будзе прыкладам беззапаветнага служэння Айчыне, гатоўнасці да самаахвяравання ў імя яе свабоды і незалежнасці.

Віншую ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і Узброеных Сіл, усіх ваеннаслужачых і грамадзян Рэспублікі Беларусь з вялікім святам — Днём Перамогі.

Жадаю моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, поспехаў у ратнай службе і мірнай працы на карысць нашай Радзімы!

ЗАГАДВАЮ:

У азнаменаванне 51-й гадавіны Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гадоў 9 мая 1996 года ў 22 гадзіны зрабіць святочны салют у сталіцы Рэспублікі Беларусь горадзе-герoі Мінску і крэпасці-героі Брэсце.

Велічны подзвіг герояў-пераможцаў будзе жыць у вяках.

Слава нашаму мужнаму і працавітаму народу!

**Міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнант Л.МАЛЬЦАЎ.**

## У ДЗЕНЬ СВЯТКАВАННЯ ДНЯ ПЕРАМОГІ Ў МІНСКУ АДБУДЗЕЦЦА ТРАДЫЦЫЙНАЕ ШЭСЦЕ ВЕТЭРАНАЎ

9 мая, у дзень святкавання 51-й гадавіны Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, у Мінску па ініцыятыве Рэспубліканскага савета ветэранаў, Беларускага саюза афіцэраў і Рэспубліканскага савета Руху за сацыяльны прагрэс і справядлівасць адбудзецца традыцыйнае шэсце ветэранаў. Пройдзе яно на невялікім участку праспекта Францыска Скарыны ад будынка цырка да манумента на плошчы Перамогі. Аб адзінаццатай гадзіне да яго будуць ускладзены кветкі і вянкі.

Не выключана, што ў шэсці возьмуць удзел і кіраўнікі беларускай дзяржавы, у тым ліку і Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

---

## ФОТА-СЛОВА

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

☆

*— Ну што, мой сябар?*
*— Шчыруе зноў вясна,*
*Зноў, як у тым*
*Далёкім сорак пятым,*
*Даносіцца з начы*
*І заціхае ў снах*
*Апошні гром*
*Апошняе гарматы...*
*— Ці памятаеш, сябар?*
*— Я памятаю ўсё:*
*Крывавы шлях*
*Да светлай Перамогі...*
*Квітнее сад*
*І шчасціцца жыццё*
*Ля старых дрэў*
*Той франтавой дарогі.*

***На здымку:*** удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны мінчане Іван Барысавіч БЯЛЯЕЎ і Веніямін Іосіфавіч ВАЦЯКОЎ.

---

## «МЫ ЎРУЧАЕМ ЯМУ НАШЫ НАДЗЕІ...»

«Аляксандр Лукашэнка! Якое сэрца, што любіць Расію, не заб'ецца ад хвалявання, пачуўшы гэта імя, імя дзяржаўнага дзеяча Беларусі, які зразумеў згубную небяспеку бар'ераў, што раптам падзялілі славянскія народы, і аддаў усе сілы розуму і душы для іх пераадолення.

Ён пачынаў сваё жыццё як гуманітарый — закончыў гістарычны факультэт Магілёўскага педінстытута, але своечасова зразумеў, што вастрыё эпохі накіравана ў іншым напрамку, і, як чалавек справы, паступіў на эканамічнае аддзяленне сельскагаспадарчай акадэміі.

Лукашэнка адчуваў эпоху, але эпоха таксама заўважыла і запатрабавала гэтага чалавека. У 1990 годзе ён — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, праз тры гады ўжо ўзначальвае парламенцкую камісію па барацьбе з карупцыяй, а 10 ліпеня 1994-га стаў першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Высокі інтэлект, высокая мужнасць і пачуццё асабістай адказнасці за лёсы славянскіх народаў ужо зрабілі Аляксандра Лукашэнку Чалавекам Гісторыі. І, уручаючы яму Прэмію Андрэя Первазваннага, мы ўручаем нашы надзеі ў поспеху пачатай ім вялікай справы па ўз'яднанню вялікіх народаў».

Такія словы прагучалі ў Цэнтральным Доме культуры чыгуначнікаў Масквы на ўрачыстым вечары, прысвечаным узнагароджанню лаўрэатаў прэміі Андрэя Первазваннага.

Лаўрэатамі прэміі за 1995 год сталі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, духоўнік Свята-Троіцкай Сергіевай Лаўры архімандрыт Кірыл, адмірал Расійскага Флоту Ігар Касатонаў, Прэзідэнт Рэспублікі Сербскай Радаван Караджыч, прэзідэнт Міжнароднага кінафестывалю славянскіх праваслаўных народаў «Залаты віцязь» Мікалай Бурляеў, міністр шляхоў зносінаў Расіі Генадзь Фадзееў, Старшыня Савета Федэрацыі Расіі Ягор Строеў, заслужаны мастак Расіі Сяргей Харламаў. Прэміі ўручалі прадстаўнік патрыярха архімандрыт Аляксей і прэзідэнт Фонду Андрэя Первазваннага А. Мельнік.

Па даручэнню Прэзідэнта Беларусі прэмію прыняў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расійскай Федэрацыі Віктар Даніленка. Прымаючы ордэн Андрэя Первазваннага, пасол ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сардэчна падзякаваў Фонду Андрэя Первазваннага за высокую ацэнку дзейнасці Аляксандра Лукашэнкі ў справе збліжэння нашых народаў. «Галоўная мэта нашага Прэзідэнта — каб Супольніцтва Расіі і Беларусі і дзяржаў, якія далучацца да яго ў будучыні, — а ён верыць у гэта — стала магутным, моцным, высокаінтэлектуальным і паважаным у свеце.

У звароце да беларускага народа А. Р. Лукашэнка запэўніў, што не пашкадуе сіл, каб мара народаў былога Савецкага Саюза і перш за ўсё славянскіх — збылася», — падкрэсліў пасол.

**БЕЛТА.**

---

*УРАДЖАЙ-96*

## МАНЕЎР: ТЭХНІКІ — МЕНШ, ЭФЕКТЫЎНАСЦІ — БОЛЬШ

На Гомельшчыне сёлета ў многіх калгасах і саўгасах не хапала грошай, марудна рыхтавалася да сяўбы тэхніка. Асабліва дрэнна было з запаснымі часткамі да трактароў Т-150К і ДТ-75. Таму рэкамендавана было рыхтаваць тэхніку не ўсю, а лепшую. З тым, каб яна магла працаваць без перабояў у дзве змены. І такім чынам атрымалася, што з пятнаццаці тысяч трактароў у рабоце будзе задзейнічана дзесяць тысяч. Колькасць іх меншая, але надзейнасць у эксплуатацыі большая.

Дарэчы, на канец красавіка з Мінскага трактарнага завода было атрымана запчастак да трактароў на 3,7 мільярда рублёў з 4,1 мільярда (гэта дапамога была аказана згодна з адпаведным распараджэннем Кабінета Міністраў).

Як вядома, многія гаспадаркі Гомельшчыны знаходзяцца ў зоне радыяцыйнага забруджвання, і, каб атрымаць чыстую прадукцыю, патрэбны мінеральныя ўгнаенні. Аднак з-за фінансавага стану не ўсе раёны аднолькава імі забяспечаны. Так, напрыклад, калі ў Рэчыцкім, Петрыкаўскім, Буда-Кашалёўскім і Акцябрскім раёнах іх маецца адпаведна 40, 37, 36 і 36 працэнтаў, дык моцна адстаюць у Нараўлянскім, Жлобінскім, Лельчыцкім, Чачэрскім і Мазырскім раёнах.

Што датычыць насення, дык яго хапае. Больш таго, сёлета яно палепшанае, бо завезлі дзве з паловай тысячы тон эліты збожжавых з эксперыментальных баз.

Пры захаванні ўсіх правілаў агратэхнікі і добрым надвор'і гэтае насенне ў стане забяспечыць ураджайнасць збожжавых да сарака цэнтнераў з гектара.

Лепш, чым летась, гаспадаркі забяспечаны і дызельным палівам (на семдзесят працэнтаў).

Сёння ўсе 426 гаспадарак Гомельшчыны вядуць пасяўныя работы. Людзі працуюць увесь светлавы дзень, наладжана гарачае харчаванне, падвоз на палі...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*СІТУАЦЫЯ*

## МАЛАКО Ў ГРОДНА ВОЗЯЦЬ НАВАТ З... САЛІГОРСКА

Кожны такі рэйс для гродзенскага ТАА «Котра» абыходзіцца прыкладна ў паўмільёна рублёў. Што ж прымусіла фірму так далёка шукаць, здавалася б, не вельмі ўжо і дэфіцытную прадукцыю?

Справа ў тым, што «Котра» мае ў абласным цэнтры пяць магазінаў, у якіх заўсёды павінен быць асартыментны мінімум тавараў — малако, хлеб і г. д. Аднак цяпер дзейнасць ТАА практычна паралізавана, паколькі яе разліковы рахунак арыштаваны Вышэйшым гаспадарчым судом краіны. Такое рашэнне прынята ў сувязі з іскам да «Котры» яе ранейшых партнёраў па бізнесу, якія настойваюць на спагнанні з фірмы вельмі буйной сумы грошай. Суд задаволіў гэты іск, аднак «Котра» сваёй віны не прызнае. Кіраўніцтва фірмы сцвярджае, што дагавор аб гандлёвай здзелцы, які стаў прадметам спрэчкі, фіктыўны. Так гэта ці не — павінна разабрацца пракуратура Гродзенскай вобласці, якая расследуе крымінальную справу, узбуджаную па заяве аб падробцы дакументаў. Канчатковага вердыкту пакуль няма, аднак вінаватыя ўжо вызначыліся: гэта наведвальнікі магазінаў, у якіх у сувязі з арыштам разліковага рахунку «Котры» ўзніклі праблемы з набыццём прадуктаў. Добра яшчэ, што Салігорскі малаказавод адпускае прадукцыю ў лік запазычанасці перад гэтай фірмай.

Старшыня Гродзенскага гарвыканкома Генрых Крупенка звярнуўся ў Вышэйшы гаспадарчы суд з просьбай паскорыць разгляд касацыйнай скаргі ТАА «Котра», паколькі «арышт разліковага рахунку прывёў да немагчымасці забеспячэння прадуктамі харчавання і таварамі першай неабходнасці шэрага мікраёнаў г. Гродна праз гандлёвую сетку магазінаў фірмы і росту ачагоў сацыяльнай напружанасці ў горадзе». На падставе канчатковага вердыкту выканком будзе вырашаць далейшы лёс гэтых гандлёвых прадпрыемстваў.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*ПАВЕДАМЛЯЕ МІНСТАТ*

## ПЕРШЫ КВАРТАЛ: НАЙБОЛЬШ АГУЛЬНЫЯ ВЫНІКІ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ

Валавы ўнутраны прадукт у студзені—сакавіку склаў 33.834 мільярды рублёў, яго рэальны аб'ём у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года скараціўся на 3 працэнты.

Вытворчасць прадукцыі прамысловасці за тры месяцы склала 97,1 працэнта (у сакавіку — 104,5), пры гэтым вытворчасць тавараў народнага спажывання — 86,1 (91,4), вытворчасць прадукцыі сельскай гаспадаркі — 94 працэнты (у гаспадарках насельніцтва вытворчасць прадукцыі ўзрасла).

Аб'ём знешняга гандлю за студзень-люты — 21.924 мільярды беларускіх рублёў (удзельная вага гандлёвая абароту з краінамі СНД — 64 працэнты), сальда — адмоўнае ў памеры 4158 мільярдаў рублёў. «Мінус» вынікае як з гандлю з краінамі СНД, так і з гандлю з краінамі далёкага замежжа (у гандлі з далёкім замежжам на працягу мінулага года рэспубліка мела ўстойлівы «плюс». Апошнія даныя, такім чынам, сведчаць аб неспрыяльных тэндэнцыях, якія закранулі экспарт, аб зніжэнні экспартнага патэнцыялу).

Па стану на 1 сакавіка ў рэспубліцы было 2811 стратных прадпрыемстваў, або 31,8 працэнта абследаваных. Рэнтабельнасць галін эканомікі склала 7 працэнтаў (14,2 у 1995 годзе). Дэбіторская запазычанасць узрасла да 51,9 трыльёна рублёў, крэдыторская — да 62,9 трыльёна.

Зводны індэкс спажывецкіх цэн за сакавік адносна лютага склаў 102 працэнты, грашовыя даходы насельніцтва павялічыліся на 6 працэнтаў. У сакавіку сярэдняя заработная плата склала 1070 тысяч рублёў. Агульны аб'ём рознічнага гандлёвага абароту і платных паслуг павялічыўся ў першым квартале на 3 працэнты.

На канец сакавіка колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных складала 3,5 працэнта адносна эканамічна актыўнага насельніцтва.

---

## ВІКТАР КУЧЫНСКІ ПЕРАЙШОЎ НА ВЫБАРНУЮ ПАСАДУ

Памочнік прэзідэнта краіны па асобых даручэннях Віктар Кучынскі з 6 мая звольнены ў сувязі з пераходам на выбарную пасаду. Распараджэнне аб гэтым выдаў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, Віктар Кучынскі, які з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета 13 склікання, будзе працаваць на пастаяннай аснове ў парламенцкай Камісіі па адукацыі, навуцы, культуры.

## АДЧЫНІЛІСЯ ДЗВЕРЫ ДЛЯ НАРОДНАЙ І БАЯВОЙ СЛАВЫ

**На Магілёўшчыне, у Чавусах, у самы пярэдадзень Дня Перамогі адчыніў свае дзверы раённы гістарычна-краязнаўчы музей. З шасці экспазіцыйных залаў тры прысвечаны перыяду Вялікай Айчыннай вайны.**

Чым жа адметным вызначаецца новая культурна-асветніцкая ўстанова? З просьбай адказаць на гэтае пытанне мы звярнуліся да мастака Георгія Лойкі, які прыклаў шмат намаганняў для паспяховага мастацкага афармлення музейнай экспазіцыі.

— У памяшканні былога павятовага казначэйства размясціліся далёка не выпадковыя мастацкія творы. Дарагія мясцовым жыхарам экспанаты дапаўняюць работы вядомых майстроў. У прыватнасці, бюст земляка, вядомага савецкага разведчыка Льва Маневіча (аўтар — Заір Азгур), скульптурны партрэт першай у гісторыі Расійскай імперыі жанчыны-прафесара Кашаваравай-Рудневай (аўтар — Уладзімір Лятун), шэраг іншых работ.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ЦВІЦЕ ЧАРОМХА — ДА ПАХАЛАДАННЯ...

У нейкай ступені непрыемная заканамернасць — вяртанне халадоў у перыяд цвіцення садоў — паўтарылася і цяпер. Але не трэба страчваць надзею. Як паведаміла карэспандэнту БЕЛТА галоўны сіноптык камітэта па гідраметэаралогіі Тамара Цярэшчанка, ужо 9 мая чакаецца наступленне цяпла на паўднёвыя раёны рэспублікі, а 10 яно распаўсюдзіцца і на ўсю астатнюю тэрыторыю. Прычым тэмпература ў гэтыя дні ўзнімецца да 19—24 градусаў. І ўся частка месяца, што засталася, чакаецца цёплай, сярэдняя тэмпература будзе перавышаць узровень нормы на 2 градусы.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

---

*«ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»*

## ДОБРА І АВАНС У ПАРУ АТРЫМАЦЬ. ПРА ЗАРПЛАТУ ПАКУЛЬ І НЕ ПЫТАЙЦЕСЯ

**«Гарачы тэлефон» «Звязды» — 68-28-72 — задаў свайму чытачу адно пытанне, абвастрыўшы ці не найгалоўнейшы клопат сённяшняга дня — своечасовую выплату зарплаты.**

Паспрабаваць высветліць ісціну з уласным заробкам — гэта ваша права. Выкарыстайце яго. Няхай сабе і як адзін з нямногіх шанцаў.

Званкі на шэраг мінскіх прадпрыемстваў пераканалі ў наступным меркаванні, што выкрышталізавалася ў апошнія месяцы, а то можа і ў апошнія год-два. Людзі да нявыплаты зарплаты ставяцца даволі спакойна. Ці, можа, толькі вонкава навучыліся хаваць, заганяць у самы далёкі куток сваёй душы ўсялякія эмоцыі? Інакш як растлумачыць спакой чалавека, якому адно толькі абяцанкамі дураць галаву?

На Мінскім заводзе аўтаматычных ліній аванс (дзіўна толькі, чаму ў нас авансам называюць ужо заробленыя грошы) за красавік затрымалі на некалькі дзён — на тыдзень. І пра гэта трэба пісаць, гаварыць як пра ўзор, прыклад (сцвярджаю, што адзначаю гэта без усялякай іроніі). На іншых прадпрыемствах, у іншых установах тыдзень не з'яўляецца прадметам асаблівай заклапочанасці. Месцамі пра аванс і ўвогуле забываюцца. І што тут зробіш? А ёсць жа, між іншым, калектыўныя дагаворы наймальнікаў на працу і прафсаюзаў. Відаць, на паперы трэба пісаць пра тыднёвую аплату працы, тады, магчыма, адзін раз у месяц права на зарплату будзе ўлічана — вось пэўны плён і будзе дасягнуты.

Сярод званкоў «гарачага тэлефона» ўразіў наступны — ад нашага падпісчыка, шліфоўшчыка завода «Гарызонт» Анатоля Вікенцьевіча Доўнара. І вось што ён паведаміў: толькі на 50 працэнтаў выплачана зарплата за люты. Зірніце на каляндар: пасля лютага быў яшчэ сакавік. А ў маі, як мы разумеем, павінны плаціць за красавік. На што спадзяюцца на «Гарызонце»? Пытанне з разраду рытарычных, з тых, якія віснуць у паветры. Асабіста Анатоль Вікенцьевіч спадзяецца на тое, што на «Гарызонт» прыедзе Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Магчыма, тады, маўляў, зарплату нам усё ж выдадуць. Добра было б, калі б так і здарылася. Але ж хіба зможа Прэзідэнт штомесяц асабіста паўсюдна кантраляваць, як выплачваецца зарплата?

**Нагадваем, што ў рэдакцыі «Звязды» працуе «гарачы тэлефон». Пра ўсе факты несвоечасовай выплаты зарплаты звоніце нам з 10 да 13 гадзін: 68-28-72. Чакаем!**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

